

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№5 (314) САКАВІК 2022 ГОД

НАШ КРАЙ

## ЯК ЭКАНОМІЯ І РАЦЫЯНАЛЬНАСЦЬ ЗМЯНІЛІ РЭГІЁН

**Шумілінскі раён – гэта даволі сціплы эканамічны патэнцыял, вялікая колькасць людзей пажылога ўзросту, мноства маланаселеных пунктаў. Шумілінщына схільная да тэндэнцыі тых раёнаў, адкуль працоўныя рэсурсы вымывае размешчаны блізка абласны цэнтр (да Віцебска каля 40 км). Тым больш важна замацаваць моладзь, стварыўшы тут, у сельскай мясцовасці, добрыя ўмовы жыцця і адпачынку, упэўнены дырэктар УП ЖКГ Шумілінскага раёна Аляксей Шпакоў.**

– У апошнія гады наш край змяніўся, – кажа ён. – Шмат у чым гэта зроблена дзякуючы дакладнай дзяржаўнай палітыцы, накіраванай на развіццё рэгіёнаў. Толькі пры падрыхтоўцы да абласных "Дажынак" летась у інфраструктуру раёна было ўкладзена больш за 20 мільёнаў рублёў з розных крыніц.

Сапраўды, Шуміліна змянілася – цяпер гэта ўтульны і камфортны гарпасёлак. З новымі тратуарамі, дарожкамі, зонамі адпачынку. Фасады хат цешаць вока арыгінальна падабранай каляровай гамай. Яркае гульнявое мястэчка для дзетак з'явілася ў цэнтральным парку. Вось-вось пачне сваю сезонную працу фантан…

– Удзел ва ўладкаванні раённага цэнтра прымаюць усе прадпрыемствы і арганізацыі, - адзначае Аляксей Шпакоў. – Ды і самі жыхары робяць усё магчымае, каб нашы вуліцы былі прыгожымі і чыстымі. Без падтрымкі грамадскасці жыллёва-камунальная служба, якая складаецца менш як з 300 чалавек і абслугоўвае ўсе населеныя пункты раёна, не ў сілах падтрымліваць узорны парадак.

У мінулым годзе камунальнікі прынялі ўдзел у конкурсе праектаў па перапрацоўцы другасных рэсурсаў. Выйграўшы конкурс, устанавілі, у тым ліку ў пасёлку Обаль і аграгарадку Нікіціха, 1750 кантэйнераў для раздзельнага збору смецця. Карысць для экалогіі, зручнасць для жыхароў і супрацоўнікаў ЖКГ. Плюс павелічэнне аб'ёмаў, рэалізаваных на перапрацоўку другарэсурсаў.

Абнаўляецца і тэхнічны парк. Купілі два УАЗы, пагрузчык, грэйдэр, вось-вось прыйдзе новы смеццявоз.

– Жыццё само падказвае, на якіх пытаннях у той ці іншы час трэба сканцэнтраваць увагу, – зазначае кіраўнік. – Напрыклад, жыхарам аддаленых вёсак, у параўнанні з гараджанамі, складаней вырашаць бытавыя пытанні. Улічваючы пажаданні вяскоўцаў, мы арганізавалі ўласную брыгаду рытуальных паслуг. Абсталявалі яе патрэбнай тэхнікай. Цяпер людзі дзякуюць – праблема знятая.

Але каб увесці нейкія дадатковыя паслугі, найперш патрабуюцца свабодныя сродкі. У ЖКГ іх няшмат. Таму пытанне здаровай эканоміі і энергазберажэння тут стаіць на першым месцы.

Самым сапраўдным прарывам сталі пераўтварэнні ў цэнтральнай кацельні

*(працяг на стар. 2)*

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

АГРАПРАМЫСЛОВЫ КОМПЛЕКС

## ПРАЦАВАЛІ СА СТРАТАМІ

**Як працуе сельская гаспадарка Віцебскай вобласці, у тым ліку і ў Шумілінскім раёне? Адмоўная рэнтабельнасць, даўгі, затрымкі заробку радавым работнікам, падзенне паказчыкаў ураджайнасці зерневых культур, нізкія надоі малака.**

Аб гэтым і многім іншым казаў 18-га сакавіка 2022 года у Глыбокім кіраўнік дзяржавы Лукашэнка, які сабраў нараду па пытаннях развіцця аграпрамысловых аб'яднанняў Віцебскай вобласці.

"На неабходныя параметры развіцця аграаб'яднанні пакуль не выйшлі." "Ні ў вытворчай частцы (ураджай, корм, мяса, малако, загрузка вытворчасцей), ні, самае галоўнае, у эканамічнай і фінансавай (прыбытак і рэнтабельнасць, экспарт, абслугоўванне даўгоў) вы не выйшлі. Лічу такое становішча вельмі ненармальным, што ў цэлым па ўсіх аб'яднаннях за мінулы год атрымана страта ад рэалізацыі", – паведаміў кіраўнік дзяржавы.

Вам"даравалі, спісалі, далі адтэрміноўкі, растэрміноўкі, адкрылі спецрахункі, працэнты гасім і да таго падобнае. Наступіў час пытаць за вынік... Што тычыцца вас, вы сур'ёзна завінаваціліся краіне і бюджэту. І прама скажу: жалезна вы павінны вяртаць тыя сродкі, якія ў вас уклалі і аказалі вам падтрымку."

Так, добрая палова арганізацый працуе з адмоўнай рэнтабельнасцю. Прынамсі, выраслі пратэрмінаваныя даўгі, квітнеюць пасярэднікі і схемы выдачы шматгадовых авансаў з боку перапрацоўшчыкаў у карысць неэфектыўных гаспадарак.

Ёсць і факты затрымак заробку радавым работнікам. "Пра гэта я вас папярэджваў асобна. І на гэты конт размова апошняя", – папярэдзіў Лукашэнка.

Разам з тым Камітэт дзяржкантролю адзначае большую цякучасць кадраў у АПК Віцебскай вобласці. Кадры імкліва "памаладзіліся" – добрая палова кіраўнікоў мае стаж працы ўсяго за меней… трох (!) гадоў.

"Ува шых аб'яднаннях не хапае дзясяткаў заатэхнікаў, аграномаў, ветурачоў і іншых патрэбных спецыялістаў. А мы ж дамаўляліся, што пры аб'яднанні будуць створаны брыгады спецыялістаў, асабліва ветэрынарных урачоў і яны будуць абслугоўваць прадпрыемствы, якія ўваходзяць у вашыя інтэграцыйныя аб'яднанні, – нагадаў Аляксандр Лукашэнка". – Не вырашым кадравае пытанне, не вырашым пытанні вытворчай дысцыпліны і іншых выглядаў дысцыпліны - ніякіх праблем мы не вырашым".

Крытыка кіраўніка Беларусі, безумоўна, тычыцца і нашага раёна, бо чым зараз можа ганарыцца Шуміліншчына? Пра вытворчасць малака ўвогуле казаць няма чаго, варта толькі прыпомніць леташнія паказчыкі. Як вядома, мінулагодні сярэдні надой ад каровы у Шумілінскім раёне саставіў усяго 2277 кілаграмы. Праўда і тое, што паклапаціліся пра насенне добрай селекцыі, таму, пэўна, змаглі намалаціць зерня на ўзроўні мінулага года. Тут атрымалі болей за дзве з паловай тысячы тон. А таго ж наяўнасць у дастатковай колькасці насення канюшыны таксама дазволіла нарыхтаваць амаль 24 ц кармавых адзінак на галаву –на зіму пакуль што хапіла. Аднак сёлета ўраджайнасць азімых склала крыху болей за 25 цэнтнераў з гектара, тады як яравыя далі ўсяго па 15 цэнтнераў. У той час як па краіне гэты паказчык дасягае да 33,5 ц/га ( ў 2020-м – 38,4), па Віцебскай вобласці – 26,1 ц/га ( ў 2020-м – 31,5). Такім чынам, па ўсяму бачна, што допушчана значнае падзенне ўраджаю. Менавіта таму шумілінскія кіраўнікі бачаць выхад у павышэнні ўраджайнасці найперш у пашырэнні пасяўных плошчаў гэтых культур. На іх думку, гэта ёсць істотныя рэзервы павелічэння вытворчасці зерня. І не выпадкова пад ураджай наступнага года пасеялі 8701 гектар азімых зерневых, гэта на 26 працэнтаў больш, як летась. А гэта не што іншае, як састарэлыя метады экстэнсіўнага нарошчвання аб'ёмаў сельгаспрадукцыі замест інтэнсіфікацыі ды мадэрнізацыі. Дарэчы, такія метады шырока прымяняліся ў савецкія часы, што і прывяло да занятаду калгасаў. Як кажуць, "у адну і тую ж раку нельга ўвайсці двойчы". Але ж нырэць у адно і тое ж балота можна да бясконцасці.

**Ян Вайтовіч**

ЭКАНОМІКА

## ШЧАПА ЗАМЕСТ ГАЗУ

**У Шуміліна за тры месяцы зэканомілі каля мільёна рублёў.**

Як вядома, сёння Цэнтральная кацельня гарадскога пасёлка Шуміліна абслугоўвае практычна ўвесь райцэнтр. Год таму тут правялі рэканструкцыю з мадэрнізацыяй і ўстанавілі два новыя катлы, якія працуюць на дранцы. Для бесперабойнай падачы паліва жыллёва-камунальная гаспадарка закупіла спецыяльнае абсталяванне – мабільную драбнілку. Яе ўсталявалі на "Беларус". Цяпер гэты «дуэт» здольны вырабляць не менш за 4,5 тысячы тон дранкі ў месяц і папросту здрабняе бярвенне дыяметрам 70 сантыметраў.

Эканамічнага выніку доўга чакаць не прыйшлося. Калі ў 2020 годзе прадпрыемства выкарыстоўвала 2 мільёны 453 тысячы метраў кубічных газу, то ў мінулым - усяго 996 тысяч метраў кубічных. У першым квартале бягучага года камунальнікі падключалі газавыя катлы толькі тады, калі было патрэбна праводзіць тэхнічнае абслугоўванне тых, што працуюць на мясцовых відах паліва. У выніку выдатак газу склаў усяго 59 тысяч метраў кубічных. Гэта значыць, у параўнанні з 2020 годам эканомія ў перакладзе на валюту склала прыкладна 250 тысяч долараў. А ўсяго за год ЖКГ Шумілінскага раёна зэканоміла на ацяпленні больш за паўмільёна долараў. З улікам цяперашняга курса гэта сапраўдны рэкорд.

**Ян Вайтовіч**

ГОД ПАМЯЦІ

## ВЫЯВІЛІ НОВЫЯ ІМЁНЫ

**Усяго 2438 савецкіх салдат пахаваны ў вёсцы Дворышча Сіроцінскага сельсавета, а гэта, бадай што – самыя вялікія брацкія могілкі ў Шумілінскім раёне. Але жыццё на месцы не стаіць, як стала вядома – 40 новых імёнаў хутка з'явіцца на брацкім пахаванні ў вёсцы Дворышча Шумілінскага раёна.**

Самае першае пахаванне ў гісторыі магілак адбылося яшчэ ў 1944 годзе, затым пазней тут рабіліся перапахаванні астанкаў салдат з іншых пахаванняў. Аднак актыўная работа па пошуку імёнаў загінуўшых чырвонаармейцаў не спыняецца, таму штогод адкрываюцца новыя прозвішчы, якія былі раней невядомыя.

Да прыкладу, надоечы жыхар Масквы Сяргей Фралоў звярнуўся ва Упраўленне па ўвекавечванні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Масквіч распавёў, што чму пашанцавала адшукаць звесткі пра свайго стрыечнага дзеда Пятра Еўдакімавіча Фралова, які ваяваў каля вёскі Навасёлкі, што месціцца побач з вёскай Дворышча і загінуў там. Ад свайго імя Сяргей Вячаслававіч прасіў увекавечыць на Шуміліншчыне імя свайго дзядулі.

"Перадусім спецыялісты ўпраўлення па ўвекавечванні разам з Пятром Фраловым ужо даслалі нам 44 прозвішчы салдат, якія загінулі ля Дворышча", распавяла старшыня Сіроцінскага сельсавета Аксана Шынкевіч. Аднак чатыры прозвішчы ўжо даўно былі занесены на мемарыяльныя пліты на брацкіх могілках. А вось зараз яшчэ аж сорак імёнаў будуць увекавечваць, таму трэба заказаць новую пліту з прозвішчамі савецкіх салдат.

На гэтыя мэты будуць запланаваны грошы з раённага бюджэту, арганізацыя работ ускладзена мясцовы сельсавет. Цалкам верагодна, што мемарыяльная пліта будзе ўстаноўлена да канца гэтага года бягучага 2022 года.

**М. Амбросаў**

НАШ КРАЙ

(пачатак на стр. 1)
гарпасёлка, якая абслугоўвае практычна ўвесь райцэнтр. Год таму тут правялі рэканструкцыю з мадэрнізацыяй і ўстанавілі два новыя катлы. Яны працуюць на дранцы. Для бесперабойнай падачы паліва прадпрыемства закупіла спецыяльнае абсталяванне – мабільную драбнілку. Яе ўстанавілі на трактар "Беларус". Цяпер гэты «дуэт» здольны вырабляць не менш за 4,5 тысячы тон дранкі ў месяц і папросту здрабнее бярвенне дыяметрам у 70 сантыметраў.

Эканамічны вынік доўга чакаць не прыйшлося. Калі ў 2020 годзе ЖКГ выкарыстоўвала 2,453 тысячы метраў кубічных газу, то ў мінулым - 996 тысяч кубоў. У першым квартале бягучага года камунальнікі падключалі газавыя катлы толькі тады, калі трэба было праводзіць тэхнічнае абслугоўванне тых, што працуюць на мясцовых відах паліва, - для чысткі. У выніку выдатак газу склаў 59 тысяч метраў кубічных. Гэта значыць, у параўнанні з 2020-м эканомія ў перакладзе на валюту дасягнула прыкладна 250 тысяч долараў. А ўсяго за год ЖКГ Шумілінскага раёна зберагла на ацяпленні больш за паўмільёна долараў.

Стратэгія рацыянальнага выкарыстання рэсурсаў дае свой плён, з'яўляецца матывамі адшукваць дадатковыя да мэтавай бюджэтнай падтрымкі рэзервы фінансавання важных надзённых праектаў. Так, летась былі добраўпарадкаваны дваровыя тэрыторыі, заасфальтаваны праезды, стаянкі, тратуары, падыходы да пад'ездаў, адрамантаваны дзіцячыя гульнявыя пляцоўкі. Заменена 5,1 тысячы квадратных метраў тратуарнай пліткі, 630 метраў квадратных – асфальтабетоннага пакрыцця тратуараў. Новыя фасады – амаль у 50 шматпавярхоўках. Адрамантаваны балконы, заменена тры кіламетры цеплаcетак…

Новыя свідравіны і станцыі абезжалезвання дапамаглі вырашыць праблемы з напорам і залішняй каляннасцю пітной вады. Мадэрнізацыя сістэмы апалу - гэта надзейнае забеспячэнне цяплом. А бо на балансе Шумілінскай ЖКГ - 17 дзеючых кацельняў. Дарэчы, сёлета плануецца закуп яшчэ некалькіх катлоў, якія будуць працаваць на мясцовых відах паліва. Іх усталююць у вёсках Сураўні і Дабрына. Крыху пазней мадэрнізацыя кацельні пройдзе і ў Мікіцiху.

Аб'ём працы немалы. На балансе камунальнікаў – звыш 660 дамоў. Дзве трэці з іх размешчаны ў сельскай мясцовасці. Ёсць два палігоны для пахавання цвёрдых бытавых адходаў і каля 17 тысяч кліентаў на вываз смецця. – У нас працуюць выдатныя людзі, - адзначае дырэктар ЖКГ. – Чатырычалавекіўзнагароджаны значком "Ганаровы работнік жыллёва-камунальнай гаспадаркі": галоўны эканаміст Алена Малашэнка, бухгалтар-касір Ірына Усоўская, слесар-сантэхнік Уладзімір Бурлакоў, спецыяліст па ідэалагічнай рабоце Таццяна Лявонава. Сярэдні ўзрост працаўнікоў – 40-45 гадоў. Побач з вопытнымі настаўнікамі набіраецца майстэрства моладзь. Штогод мы прымаем у штат два-тры маладыя спецыялісты. Летась, напрыклад, да нас прыбылі два слесары і электрык. Ураджэнец Шумілінскага раёна Ілля Сіўцоў прыйшоў па размеркаванні на пасаду электраманцёра, потым адправіўся ў войска, дэмабілізаваўся – і зноў да нас. Зарплата вартая, ёсць сацыяльны пакет. Усе бонусы – стымул для адказнасці і якасці.

Колькасць заявак на паслугі па прадпрыемстве расце, а крытыкі з боку заказчыкаў усё менш. За два гады колькасць прэтэнзій зменшылася амаль напалову. І гэта пры самавітым росце базы кліентаў у цэлым.

Шумілінскую ЖКГ па праве лічаць адным з найлепшых у Віцебскай вобласці. Як, дарэчы, і яго маладога дырэктара, які стаіць ля руля апошнія чатыры гады. Нядаўна Аляксей Шпакаў стаў уладальнікам звання "Чалавек года Віцебшчыны".

**sb.by**

**Пераклад з расейскай рэдактара**

АДУКАЦЫЯ

# ІНАВАЦЫЙНАЯ СПІЛС-КАРТА

**Спілс-карта – гэта інавацыйная распрацоўка, якая ўяўляе сабой набор магнітных гульнявых элементаў, выкананых у форме тэрытарыяльных адзінак дзяржаў і рэгіёнаў.**

Цяпер і ў вучняў з Шуміліна з'явілася ўнікальная магчымасць больш дэталёва вывучыць геаграфію краіны і заявіць аб сабе на чэмпіянатах па хуткаснай зборцы спілс-карт у рамках праекта "Ведаю Беларусь". Гэтая "галаваломка" ўяўляе сабой набор магнітных элементаў у форме раёнаў рэспублікі, якія на спецыяльнай магнітнай дошцы складаюцца ў карту краіны.

У сваю чаргу дырэктарка сярэдняй школы №1 Шуміліна Наталля Мясаедава адзначыла, што скласці Сінявокую са мноства мазаік – заданне не з простых, але ў той жа час, яно цікавае і пазнавальнае. Асаблівасць спілс-карты ў тым, што ў адно імгненне можна рэальна ацаніць, наколькі добра ведаеш сваю краіну, Падбіраць элементы наўздагад – гэта стратэгія, загадзя асуджаная на правал. Дзякуючы праекту патрыятычнай накіраванасці дзеці будуць даведвацца контур сваёй дзяржавы на любой карце, арыентавацца ў раёнах сваёй вобласці і суседніх.

У бліжэйшы час спілс-карта паселіцца ў адным з кабінетаў па гісторыі ці геаграфіі.

**М. Амбросаў**

СПОРТ

# ВАЛЕЙБОЛЬНАЯ ЛІГА

**У чацвер-суботу у Шумілінскай СДЮШАР адбыліся гульні трэцяга туру рэспубліканскай дзіцяча-юнацкай валейбольнай лігі «Мяч над сеткай».**

У госці да шумілінскай каманды прыехалі выхаванцы Цэнтра алімпійскага рэзерву са Жлобіна, АСДЮШАР імя А. Сапегі горада Гродна і ДЮСШ з Паставаў.

Чыноўніца райвыканкама Ірына Шалахава, якая адкрывала спаборніцтвы, пажадала юным валейбалістам "прыгожай барацьбы і яркіх спартыўных перамог".

Па выніках спаборніцтваў у нашых шумілінскіх землякоў ёсць перамогі над пастаўскімі і брэсцкімі (тэхнічная) валейбалістамі. Бадай што, і самі гульні выклікалі інтарэс ў валейбольных заўзятараў. А ў матчы супраць каманды са Жлобіна прыйшлі падтрымаць землякоў сам кіраўнік раёна Сяргей Галынчык ды старшыня райсавета дэпутатаў Мікалай Будневіч.

Паводле меркавання дырэктара Шумілінскай СДЮШАР Алега Асташонка, "каманда гэтага ўзросту на сённяшні дзень вельмі перспектыўная". Праўда і тое, што яны толькі пачалі рабіць першыя крокі на рэспубліканскіх стартах. Аднак, нягледзячы на гэту акалічнасць, ў складзе каманды ўжо маюцца такія гульцы, якія змогуць выступаць нават за маладзёжную і нацыянальную зборныя Беларусі. Таму і хочацца адзначыць, што гэта своеасаблівая зборная нашай спартыўнай школы, бо першымі трэнерамі тут былі Любоў Бабова, Юрый Пальвінскі і Аляксей Паршыкаў. Гэта каманда абавязкова падтрымае традыцыі шумілінскай валейбольнай школы і неаднаразова будзе радаваць землякоў яркімі перамогамі.

Пра тое, што ў каманды добрыя перспектывы, адзначыў і трэнер Аляксей Паршыкаў, бо зараз перад хлопцамі не ставіцца задача перамагаць любым коштам. Пакуль што зараз вельмі важна знайсці сваю гульню, атрымаць упэўненасць на гульнявой пляцоўцы. У цяперашні час наша каманда змагаецца за выхад у фінал чатырох, у якім і трэба будзе даказваць, што ты можаш большае. Калі, кажа трэнер Аляксей, па шчырасці, ён набранымі ачкамі ў хатнім туры быў задаволены. Вось толькі якасцю гульні – пакуль што не. Але гэта не засмучае, бо яшчэ ёсць нямалы час на выпраўленне памылак.

**Алесь Прыбярэжны**

ЗДАРЭННЕ

# У ВЁСЦЫ ЛАБЕЙКІ ГАРЭЎ ДОМ

**Паведамленне пра пажар дома ў вёсцы Лабейкі Мікалаеўскага сельсавета паступіла ў службу ратавання 14 сакавіка а шостай гадзіне вечара. Агнём у доме знішчаны дах, столевае перакрыцце, пашкоджаны сцены, маёмасць.**

Прычына пажару ўстанаўліваецца. Найбольш разглядаемая версія – парушэнне правілаў эксплуатацыі электрасетак або электраабсталявання.

У сувязі з гэтым ратавальнікі папярэджваюць: не карыстайцеся пашкоджанымі электрычнымі разеткамі, саморобнымі падаўжальнікамі і няспраўнымі электрапрыборамі. Ідучы з дома, адключайце электрапрыборы.

**Сяржук Крупскі па матэрыялах МНС**

СЭРВІС

# ПАСЛУГІ РАЙБЫТКАМБІНАТА

**Што на сённяшні дзень прапануе шумілінцам мясцовы райбыткамбінат? Тут змогуць пастрыгчы, падшыць, прывезці дроў і нават знесці струхлелыя хаты.**

Паводле яго дырэктара з вялікім стажам (22 гады) Віктара Бабічава, за мінулы год Шумілінскі камбінат знаходзіцца дзесьці у "залатой сярэдзіне" абласной зводкі сярод 16 прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання. Варта дадаць, што апошнія дзесяць гадоў прадпрыемства не мае страт. Апроч таго, па многіх пазіцыях летась займелі плюс у параўнанні з папярэднім годам. Лічбы кажуць самі за сябе.

Так, у 2021 годзе было аказана насельніцтву раёна паслуг на 228 352 рублі – на 11,4% больш, чым у 2020 годзе. Бытавыя паслугі на вёсцы "пацягнулі" на 54 342 рублі (на 15,3% больш). Добра спрацавалі па рамонце і шыцці швейных вырабаў (141%), хімчысткі (138%), пракаце (194%), рытуальных паслугах (123%). Усе пустуючыя памяшканні здаём у арэнду індывідуальным прадпрымальнікам, за што за год выручылі 58 тысяч рублёў.

Яшчэ плюс 20 тысяч рублёў атрымалі за аказаныя паслугі па ацяпленні. Калгасны рынак, які год таму быў перададзены райбыткамбінату, таксама прынёс прыбытак – ад здачы ў арэнду гандлёвых месцаў зарабілі каля дзесяці тысяч рублёў.

Прыемная навіна: напрыканцы сакавіка на першым паверсе будынка камбіната бытавога абслугоўвання адкрываецца новы магазін – «Віцебскія прадукты». І гэта яшчэ не ўсё – днямі індывідуальны прадпрымальнік у арандаваным памяшканні пачне аказваць новую для Шуміліна паслугу – "ламініраванне валасоў". Дарэчы, многія прадпрымальнікі, якія размясціліся ў будынку КУП БАНа, аказваюць менавіта бытавыя паслугі – па рамонце электратэхнікі, абутку, мотакос. Больш таго, райбыткамбінат мае дамоўленасць з прадпрымальнікамі па выезду на вёскі.

Акрамя звыклых для ўсіх бытавых паслуг, цяпер райбыткамбіат нарыхтоўвае і прадае дровы. Зараз працуюць на выдзеленай дзялянцы каля аграгарадка Слабада. Магчыма, для многіх далекавата. Аднак зараз ёсць дамоўленасць з індывідуальным прадпрымальнікам, які па заяўках жыхароў раёна на ЗІЛе прывозіць дровы (прычэп каштуе 250-300 рублёў у залежнасці ад адлегласці).

Якія планы ў камбіната бытавога абслугоўвання на гэты год і на перспектыву?

Ўдасканальваць ранейшыя паслугі, укараняць новыя. Мяркуюць ушчыльную заняцца дрэваапрацоўкай – піламатэрыялы патрэбны як жыхарам раёна, так і многім арганізацыям. Дошкі для падлогі, штыкетнік, пралёты для агароджы заўсёды карыстаюцца попытам (летась іх вазілі нават у Лосвіда і Заронава).

Больш таго, спецыялісты бытавой службы вывучалі попыт сярод жыхароў раёна па аказанні паслуг і прыйшлі да высновы, што многім землякам патрабуецца дапамога ў перакрыцці і рамонце дахаў, падлог, пабудове і рамонце цяпліц. Мяркуюць дапамагаць насельніцтву ў зносе лядашчых дамоў (прычым, робяць гэта бясплатна з той умовай, што забіраюць сабе разабраныя бярвёны). Летам мяркуюць аказваць паслугі па абкосе прысядзібных участкаў, афарбоўцы дамоў і агароджаў. Карыстаецца попытам паслуга па добраўпарадкаванні магілак (устаноўка помнікаў, выкладка пліткай, пабудова лавачак, догляд). На сёння ў райбыткамбінаце заняты на працы 18 чалавек, акрамя таго, патрабууцца на работу яшчэ вальшчык лесу, два трактарыстаў і цырульнік.

**Алесь Шумскі**

НЕ ВАЙНЕ!

# КАЛІ ЎЛАДА КІДАЕ Ў АЎТАЗАКІ ТЫХ, ХТО СУПРАЦЬ ВАЙНЫ, ЗНАЧЫЦЬ, ЯНА ЗА ВАЙНУ?

**Калі ўлада не прымае хрысціянска-кананічнае «не забі», то, атрымліваецца, падтрымлівае супрацьлеглае яму — «забі»?**




У артыкуле 18 абноўленай Канстытуцыі чорным па белым напісана: «Рэспубліка Беларусь выключае ваенную агрэсію са сваёй тэрыторыі ў дачыненні іншых дзяржаў». На добры лад, пры дапамозе новай Канстытуцыі беларускі народ атрымаў магчымасць ачысціць сваю зямлю ад расійскіх войск, якія выкарыстоўваюць яе як плацдарм для вайны ва Украіне. Запатрабаваць гэтага павінен і той, хто любіць называць сябе гарантам Асноўнага закона. Апрануў бы свой падобны на маршальскі мундзір на чарговую сустрэчу ў Маскве ды прыпёр бы свайго безмундзірнага візаві да крамлёўскай сценкі: так, маўляў, народ прагаласаваў.

Але гарант пра вывад чужацкага войска маўчыць. Гаворыць пра няўдзел Беларусі ў вайне. Хоць вядома, што менавіта з беларускіх аэрадромаў узляталі расійскія бамбавікі, каб руйнаваць украінскія гарады. З нашай тэрыторыі зайшлі агрэсарскія войскі ў чарнобыльскую зону.

Міжволі ў галаве ўсплывае такая сітуацыя: жывуць у вёсцы тры суседы. І задумалася аднаму забіць другога. Ён прыходзіць да трэцяга, дзеліцца з ім сваім злачынным планам і просіць натачыць нож. Той паслухмяна дастае тачыла. Будучы забойца кажа: каб заблытаць сляды, я ў цябе пажыву пару дзён. Ладна, жыві. Потым гучыць яшчэ адна просьба: зрабі мне дзірку ў плоце, каб зваліцца, як снег на галаву, з нечаканага боку. Добра, вось табе дзірка. А ідучы на злачынства, ваяўнічы сусед загадвае больш міралюбнаму: яечню на стол і чарку — для смеласці. Атрымлівае і чарку са скваркай.

А на судзе паслухмяны, гасцінны і міралюбны сусед лыпае вачыма і цвердзіць: я ні ў чым не вінаваты, я не забіваў. І што з таго? Паводле закона ён — саўдзельнік. Круці ні круці — трэба ў турму ісці...

Але вернемся да Канстытуцыі. Калі яе не бароніць ад гвалту гэтак званы гарант, то хай бы хоць шараговыя грамадзяне заступіліся. А яны і заступаюцца. Як могуць і на што маюць адвагу ў нашай затэрарызаванай краіне.

Мінчанін Дзмітрый Мацюшонак на ўласным балконе вывесіў плакат з двума караценькімі словамі «Не — вайне!». Прычым напісаў іх па-англійску, можа, каб міліцыя не адразу прачытала. Прачытала імгненна! Мужчыну павязалі.

Паспрабаваў прыкладна ж тымі словамі пратэставаць супраць вайны і жыхар сталіцы Максім Шышко. І — паехаў па наезджанай дарозе ў ізалятар на Акрэсціна.

Дайшло да таго, што адну маладзіцу затрымалі за... Божую запаведзь. Так-так, яна трымала ў руках не антываенны — гэтак ненавісны для беларускіх сілавікоў — лозунг, а шматок кардону з надпісам «Не забі». І яе затрымалі, праўда, пасля прафілактычнай гутаркі вызвалілі.

А ўвогуле за антываенныя пратэсты ў Беларусі было затрымана, паводле афіцыйных звестак МУС, больш за 800 чалавек. Вайна ў Беларусі ператварылася ў недатыкальную рэч. Вось у Індыі свяшчэнныя каровы недатыкальныя, а ў нас — вайна.

Гэта як разумець? «Якое, мілыя, у вас тысячагоддзе на двары»?

Калі ўлада кідае ў аўтазакі тых, хто супраць вайны, значыць, яна за вайну?

Калі ўлада катэгарычна не прымае хрысціянска-кананічнае «не забі», то, атрымліваецца, падтрымлівае супрацьлеглае яму — «забі»?

Калі ўлада нібыта ўсенародна прымае новую Канстытуцыю і тут жа адпраўляе яе наўслед за шматкроць парушанай старой (следам за дзедам), а грамадзян, якія спрабуюць жыць паводле Канстытуцыі, рэпрэсуе і зневажае, то грош цана гэтай уладзе ў вачах народа. Ужо ніякімі ружовымі акулярамі сваю антызаконную і антыхрысціянскую сутнасць яна не прыхавае.

Як нічым не апраўдае ў вачах гісторыі свой саўдзел у вайне. Бо на ўвесь свет чутно, як пад гусеніцамі расійскіх танкаў стогне не толькі беларуская зямля. Пад імі, захляпанымі ўкраінскай крывёю, курчыцца і новапрынятая беларуская Канстытуцыя.

А яшчэ тыя танкі, пазначаныя літарай V, мяшаюць з гразёю радаводныя карані Аляксандра Лукашэнкі. Бо ён сам неаднойчы прызнаваўся, што яны там — паміж Чарнігавам і Кіевам. І куды цяпер падзецца той здрапежаны чужымі танкамі радавод?

**«Народная Воля»**

ГОД ГІСТАРЫЧНАЙ ПАМЯЦІ

# ЗАМЕСТ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ МАГЛІ АБВЯСЦІЦЬ ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ

**Напярэдадні святкавання 104 годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі «Новы Час» узгадвае пра перадумовы гэтай падзеі і звяртае ўвагу на малавядомыя факты. Ці ведалі вы, што замест БНР нашы продкі маглі прачнуцца ў ВКЛ?**

… Заняць «пачэсны пасад між народамі», адраджэнне мовы, культуры — такія мэты ставілі перад сабою патрыёты Бацькаўшчыны.

Ачолілі гэты рух паплечнікі, якія злучыліся ў першай беларускай партыі Беларуская Сацыялістычная Грамада. У нацыянальным пытанні першая праграма партыі прадугледжвала ўтварэнне незалежнай Беларускай дэмакратычнай рэспублікі.

Падчас Першай сусветнай вайны браты Іван і Антон Луцкевічы разам з Вацлавам Ластоўскім выступілі з прапановай пра аднаўленне Вялікага Княства Літоўскага са сталіцай у яго гістарычным цэнтры Вільні, якая была акупаваная на той час немцамі.

У часе вайны нацыянальныя рухі ў Еўропе адчулі вялікі імпульс да незалежнасці.

Беларусь панесла вельмі буйныя чалавечыя страты ў вайне. Пасля гвалтоўнай эвакуацыі ўглыб імперыі на Віленшчыне колькасць насельніцтва зменшылася на прыблізна 20%, на Берасцейшчыне на 45%, на Гарадзеншчыне — больш чым на палову. У суседзяў ужо выношваліся планы аб далучэнні нашых земляў да будучых уласных нацыянальных дзяржаваў.

Прызнаючы беларусаў самастойным народам, немцы цывілізавана ставіліся да нашай мовы і культуры. На акупаванай тэрыторыі пры непасрэдным удзеле Івана Луцкевіча былі адкрытыя 200 пачатковых школ з выкладаннем па-беларуску, беларуская настаўніцкая семінарыя.

У гэтых умовах беларускія нацыянальныя лідары зрабілі стаўку на рэалізацыю ідэі Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага — стварэння на землі былога Княства агульнай дзяржавы.

19 снежня 1915 Канфедэрацыя апублікавала на чатырох мовах Краю (беларускай, літоўскай, польскай, ідыш) зварот («універсал»), якім абвясціла пра свой намер стварыць дзяржаву. ..

Разам з тым 6 студзеня 1916 у Коўне адбылася канферэнцыя літоўскіх і латышскіх арганізацый, якія стварылі Галоўны літоўскі народны камітэт. У дэкларацыі канферэнцыі сцвярджалася, што літоўцы і латышы, добраахвотна аб'яднаўшыся, утвараюць незалежную дзяржаву — Вялікае Княства Літоўскае — з 2 аўтаномнымі тэрыторыямі. Канферэнцыя прапанавала беларусам далучыцца да новай дзяржавы ў якасці трэцяй аўтаномнай часткі.

Улетку 1916 Беларускі народны камітэт на чале з Антонам Луцкевічам прапанаваў ідэю больш шырокага дзяржаўнага ўтварэння ад Балтыйскага да Чорнага мора. Гэтая дзяржава павінна была складацца з Беларусі, Літвы, Латвіі і Украіны. Замест адной дзяржавы з аўтаномнымі тэрыторыямі планавалася стварыць канфедэрацыйны альянс незалежных дзяржаваў — Злучаныя Штаты, як напісаў Луцкевіч.

Спачатку як літоўскія, так і нямецкія палітычныя колы даволі ўважліва назіралі за развіццём праекта Канфедэрацыі, у прыватнасці, ёй цікавіўся будучы дыктатар Літоўскай Рэспублікі Антанас Сметона. Рэзка адмоўна аднесліся да ідэі польскія дэмакраты, якія мелі ідэю федэрацыі Літвы і Польшчы па ўзоры былой Рэчы Паспалітай.

У 1917 беларускія арганізацыі працягвалі выступаць за ўтварэнне Беларуска-Літоўскай дзяржавы, прычым рабілі гэта, негледзячы на пазіцыю Літоўскай Рады (Тарыбы), што заявіла аб прэтэнзіях на беларускія землі. Ідэю такой дзяржавы ў верасні 1917 падтрымаў Беларускі нацыянальны камітэт у Менску.

…Паміж Тарыбай і Віленскай беларускай радай існавала дамоўленасць пра магчымасць стварэння ў будучым федэрацыйнай Беларуска-Літоўскай дзяржавы. У выніку ў склад Тарыбы з 24 чалавек былі ўведзеныя 6 прадстаўнікоў Віленскай рады, у тым ліку Вацлаў Ластоўскі, Іван Луцкевіч, Янка Станкевіч, а ў кабінеце міністраў незалежнай Літвы з'явілася Міністэрства беларускіх справаў пад кіраўніцтвам Язэпа Варонкі. Юрысдыкцыя міністэрства пашыралася на тэрыторыю былой Гарадзенскай губерні, асобныя паветы Віленскай і Сувалкаўскай губерняў. Гэтая тэрыторыя з насельніцтвам каля 2 млн чалавек павінна была мець статус аўтаномнай адзінкі з дзяржаўнай беларускай мовай.

Нацыянальныя арганізацыі аб'ядналіся ў Вялікай Беларускай Радзе. Дзеля вызначэння далейшага лёсу Беларусі Рада склікала ў Менску Усебеларускі з'езд (кангрэс) у снежні 1917. Старшынём быў абраны Іван Серада. На з'ездзе прагучаў заклік: «Няхай жыве Беларуская Народная Рэспубліка!» З'явілася прапанова стварыць Беларускую Рэспубліку ў складзе федэратыўнай Расеі, аднак сярод дэлегатаў з'езду ўсё большую вагу набіралі незалежніцкія настроі.

Дэлегаты падзяліліся на тых, хто змагаўся за поўную незалежнасць, і на тых, хто выступаў за аўтаномную дэмакратычную рэспубліку ў складзе Расеі. Дэлегаты кангрэсу выказалі трывогу, што камуністы вядуць у Берасці перамовы пра мір без уліку інтарэсаў Беларусі. Запрошаныя на кангрэс камуністы ад удзелу ў ім ухіліліся, але пільна сачылі за падзеямі. Орган камуністаў — Паўночна-Заходні абкам РСДРП (б), які кіраваў Мяснікян (яго імём названая напрыклад вуліца ў Мінску ля вакзалу — Мяснікова), не прызнаваў не толькі права беларусаў на самавызначэнне, але і нават самога факта існавання беларускай нацыі. Убачыўшы, што на з'ездзе набіраюць вагу незалежніцкія настроі, камуністы пастанавілі разагнаць яго з дапамогай вайсковай сілы, дэкрэт падпісаў старшыня народных камісараў Ландэр (таксама мае вуліцу імя сябе ў сталіцы). Частку дэпутатаў арыштавалі, з'езд спыніў паседжанні, але Рада Усебеларускага з'езда, якой дэлегаты перадалі сваю ўладу, выбрала са свайго складу Выканаўчы камітэт, які ўзначаліў Язэп Варонка, адзін з кіраўнікоў Грамады.

Напрыканцы студзеня 1918 у Вільні прайшла Беларуская канферэнцыя, якая прыняла рэзалюцыю аб імкненні стварыць незалежную суверэнную дэмакратычную дзяржаву з дзвюх асноўных нацыянальных тэрыторый — беларускай і літоўскай, у найшчыльнейшай еднасці з

*(працяг на стар. 4)*

## ГОД ГІСТАРЫЧНАЙ ПАМЯЦІ

*(пачатак на стар. 3)*

Курляндыяй.

…Гэты курс на аб'яднанне Беларусі з Літвой, Латвіяй і ў перспектыве з Украінай быў абумоўлены шырокім колам прычынаў, найперш неабходнасцю выйсця да мора, і вядома патрэбаю нацыянальнай абароны.

19 лютага 1918 камуністы ўцяклі з Менску пасля пачатку наступу нямецкіх войскаў. Выканаўчы камітэт здолеў выйсці з падполля. У сваёй першай Устаўной грамаце 21 лютага камітэт абвясціў сябе ў Беларусі часовай уладай. Выканкам стварыў Урад Беларусі — Народны Сакратарыят на чале з Язэпам Варонкам, але Менск занялі немцы, якія канфіскавалі сродкі Урада, скінулі з яго будынку бчб сцяг і разагналі службоўцаў. У адказ на такую палітыку Германіі наш Урад неаднаразова выступаў з нотамі пратэсту, кажучы, што акупацыя кайзераўцамі пазбавіла Беларускі ўрад магчымасці стварыць неабходную ўзброеную сілу для адстойвання незалежнасці сваёй тэрыторыі. Негледзячы на гэта, Выканкам Рады Усебеларускага з'езда зноў звярнуўся да беларусаў 9 сакавіка з Другой Устаўной граматай, дзе пазначаліся дзяржаўны лад Беларусі, правы і свабоды яе грамадзянаў.

У сакавіку 1918 у Берасці была падпісаная мірная дамова між Савецкай Расеяй і Германіяй, без удзелу беларускай дэлегацыі. Гэтая дамова пакідала частку Беларусі немцам (перадаем прывітанне падзелам Рэчы Паспалітай).

23 сакавіка Антон Луцкевіч выступіў на паседжанні Народнага Сакратарыята, дзе казаў аб тым, што фармальна Беларусь застаецца тэрыторыяй Расеі, бо першая і другая ўстаўныя граматы не скасоўваюць абвешчанай на кангрэсе федэратыўнай сувязі з Расеяй, а гэта не адпавядае надзеям і памкненням беларускага народа. У выніку раніцай 25 сакавіка прынялі Трэцюю ўстаўную грамату, у якой абвяшчалася аб незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

*(скарочана)*

**Павел Хадзінскі**
**«Новы Час»**

## РАСІЯ

# У ПУТИНА БЫЛА «БОЛЬШАЯ СТРАТЕГИЯ». И ОНА ПРОВАЛИЛАСЬ

**Политолог Кирилл Шамиев — об ошибках мира при оценке Кремля и об ошибках Кремля при оценке остального мира.**

За отправную точку агрессивной внешней политики России можно взять 2007 год, когда Путин во время Мюнхенской конференции по безопасностиоткровеннораскритиковал стратегию западных стран. Президент России тогда высказал свою главную, актуальную до сих пор, претензию: расширение Североатлантического альянса неприемлемо, потому что это часть стратегии США по распространению собственной зоны военно-политического влияния в ущерб интересам России.

На саммите Россия — НАТО в апреле следующего года Путин открыто угрожал уничтожением Украины в случае вхождения в альянс, называя соседнюю страну «даже не государством».

Спустя пять дней после речи в Мюнхене Путин назначил новым министром обороны Анатолия Сердюкова, человека из «питерской» команды, который кардинально изменил российские вооруженные силы. Благодаря инициированным им структурным изменениям стала возможной последующая военная модернизация. Это была сложная задача, которая в итоге привела к отставке Сердюкова, когда Путин вернулся в президентское кресло.

Помимо попыток модернизировать вооруженные силы и реформировать военно-промышленный комплекс, Кремль поручил проводить ежегодные инспекции и обновление сети бомбоубежищ по всей стране. Устаревшая и разворованная советская инфраструктура гражданской обороны нуждалась в ревизии и обновлении. Москва также пыталась экспериментировать с созданием армейского резерва, который в 2021 году получил название БАРС — «Боевой армейский резерв страны». Правда, он был сформирован поздно, во многом из-за управленческой косности и концептуальной отсталости системы российских военных комиссариатов, унаследованной от Советского Союза (и остающейся одним из самых архаичных институтов в стране).

Помимо военных вопросов, администрация Путина активно «захватывала» внутреннюю политику. В регионах Кремль постепенно усилил влияние силовых структур: в одних субъектах федерации выходцы из них становились губернаторами, а в других правоохранительные органы устраивали облавы на региональных руководителей. Сигнал был ясен — главы регионов должны быть исключительно лояльны и способными выполнять любые приказы Кремля. В противном случае, их ждали следствие и тюрьма.

Репрессии против оппозиции и формирование лояльного гражданского общества были частью процесса по внутриполитической мобилизации. Уничтожение отдельных политических лидеров, раздробление оппозиционных групп, кооптация гражданских инициатив при помощи грантов и доступа к власти, создание альтернативных провластных молодежных движений и цензура были необходимы для формирования согласного населения и безропотной работы авторитарной политической системы.

В глазах представителей российского режима, оппозиция, «иностранные агенты», независимые гражданские движения в военное время становятся в лучшем случае подозреваемыми, а в худшем — пособниками врага. Предварительная зачистка снизила их протестный потенциал до допустимого минимума.

Кремль также готовил страну к экономическим санкциям. С 2014 года в России активно велась работа по обеспечению «экономической безопасности». Москва определила полномочия и обязанности федеральных ведомств по противодействию санкциям, а также создала законодательную базу для работы в чрезвычайной ситуации.

Более того, правительство проводило «стресс-тесты» для госкомпаний, проверяя их готовность к отключению SWIFT, дефициту западного оборудования, ограничениям на конвертацию рубля. Центробанк также готовился к спасению российской финансовой системы.

При этом сами контуры будущей эскалации закладывались в скрытом режиме. Даже высокопоставленные чиновники не знали, к чему именно Кремль требует готовиться. Только отстраненный и комплексный анализ позволял признать катастрофическое — идет подготовка к настоящей войне.

К 2022 году мозаика собралась почти полностью, за исключением ключевой детали — решения Владимира Путина. Опубликованный 21 февраля ультиматум стал последней попыткой получить желанное невоенным путем. Чека была выдернута, и 24 февраля граната была брошена в сторону Украины.

Путин продемонстрировал удивительную последовательность своих прямолинейных взглядов, не изменившихся за 15 лет. НАТО — это угроза России. Украина — «мнимое государство», лишенное права на собственную независимую внешнюю политику и интеграцию в структуры Запада. При этом западные политики воспринимали эти заявления как оторванную от реальности пропаганду и не относились к ним серьезно.

Вторжением в Украину Путин показал, что понять его внешнюю политику просто — надо только слышать, что он говорит.…

*(скарочана)*

**gazetaby.info**

## БЕЛАРУСЬ - ЗАХАД

# МОСТЫ С МИРОМ У ЛУКАШЕНКОВСКОЙ БЕЛАРУСИ СОЖЖЕНЫ ЕЩЕ НЕ НАСТОЛЬКО, КАК У ПУТИНСКОЙ РОССИИ

**Политический обозреватель Артем Шрайбман — о туманном будущем нашей страны. Беларусь может оказаться как шлюпкой, которая в последний момент успеет отплыть от Титаника, так и той, что будет затянута в его воронку.**

— Сценарий переворота в России, естественно, не единственный из возможных. Многие режимы прошлого на годы переживали свои самоубийственные внешние авантюры, — пишет Артем Шрайбман. — Эти годы не были стабильными, но ресурсов на кормление элиты и ее охранников хватало.

Если Путину удастся завершить острую фазы войны соглашением с Украиной, которое можно будет преподнести дома как достижение заявленных целей, риск переворота в обозримой перспективе снизится.

Можно ли достичь такого соглашения, купит ли народ и элита России, насколько оно будет устойчивым — всё важные вопросы, но пока оставим их в стороне.

Проблема в том, что даже такой исход не уведет нас с траектории, на которую встала Россия. Будет ли этот процесс быстрым или вялым, линейным или волнообразным, но нас ждет многолетний закат российского государства.

Как бы ни закончилась война с Украиной, отношения Запада (и всех, кто не хочет с ним ссориться) с режимом Владимира Путина не восстановимы. Даже если удастся снять часть санкций, курс на отказ от российских энергоресурсов и экономическое отмежевание от России выглядят необратимыми.

Отсутствие как денег на покупку лояльности союзников, так и способности производить привлекательные для них идеи и ориентиры развития приведут к остыванию связей России с ее союзниками.

Мы уже это видим в нейтральной или мягко проукраинской позиции центральноазиатских стран или, например, Азербайджана.

Судьба же нашей страны становится более туманной. Беларусь при всей своей зависимости от России (которая только усугубляется из-за неспособности Лукашенко отличить свои интересы от национальных) может оказаться как шлюпкой, которая в последний момент успеет отплыть от Титаника, так и той, что будет затянута в его воронку.

И здесь важно смотреть на то, какие из форм зависимости приобретут институциональный характер, а какие останутся по своей сути временными. Даже сегодняшнее использование территории Беларуси российской армией — это временный, пусть и очень значимый процесс. Не подписывается никаких соглашений об их постоянном базировании, Минск не берет на себя никаких вечных обязательств.

То же самое касается переориентации белорусского экспорта на Россию. Все это не обязанность Беларуси. При изменении санкционной конъюнктуры и при наличии воли, перенаправить их обратно будет сложно, но возможно.

Из-за чего стоит переживать, так это из-за таких соглашений, которые замещают белорусские институты российскими или дают Москве экстерриториальные права, своеобразные якоря на белорусской земле.

Это, например, новые военные базы и объекты с договорами на десятилетия пребывания в Беларуси, переход все еще перспективных госпредприятий, банков или стратегической инфраструктуры в российскую собственность, единая валюта, переход на российское программное обеспечение в критических отраслях регулирования (налоги, таможня, банки и т.д.).

Уничтоженные собственные госинституты намного сложнее отстроить, чем вернуться к довоенным цепочкам торговли, открытым границам, нейтральной внешней политике и даже отстроить национальное информационное пространство.

Мосты с миром у лукашенковской Беларуси сожжены еще не настолько, как у путинской России. Москву и Минск в мире все еще разделяют на главного агрессора и неохотного соучастника.

Ситуация в регионе стала настолько катастрофичной и динамичной одновременно, что я не знаю, хватит ли у белорусской власти хитрости, воли и ресурсов не сдать институциональные основы суверенитета. Желания в этих областях ложиться под Москву у власти в Минске и среди белорусов нет. Но мы давно прошли ту стадию, когда желания Лукашенко или мнение народа были единственной переменной в уравнении.

Если же у Беларуси получится пройти фазу российской агонии без необратимых потерь, то так же, как закат СССР дал шанс его сателлитам вырваться из колхоза за колючей проволокой, закат России будет вторым шансом для ее бывших колоний, которые не смогли сделать правильный выбор 30 лет назад.

**gazetaby.info**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы. E-mail: alex81852@gmail.com
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 30.03.2022 у 19.15**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.